# НАВІНЫ



Акадэміі навук Беларусі

Заснавана ў кастрычніку 1979 года ● № 1(730) ● 14 студзеня 1994 г. ● Цана 25 руб.


● У ПРЭЗІДЫУМЕ АНБ

## Канцэпцыя адобрана

Пад старшынствам галоўнага вучонага сакратара АНБ акадэміка А. М. Ганчарэнкі напярэдадні Новага года адбылося чарговае пасяджэнне прэзідыума Акадэміі навук Беларусі. Асноўны даклад аб канцэпцыі развіцця атамнай энергетыкі ў РБ зрабіў акадэмік А. Р. Мартыненка. У спрэчках па дакладу прынялі ўдзел акадэмікі Р. Г. Гарэцкі, І. І. Лііштван, В. С. Буракоў, У. А. Піліповіч, С. А. Астапчык, М. С. Высоцкі, Я. Ф. Канапля, Д. І. Шыраканаў, прафесар У. Р. Барышэўскі. Прынята пастанова адобрыць у асноўным канцэпцыю, дапрацаваць яе ў адпаведнасці са зробленымі заўвагамі.

З прапановай аб перайменаванні Інстытута геалогіі, геахіміі і геафізікі АНБ выступіў акадэмік І. І. Лііштван. Прынята новая назва: Інстытут геалагічных навук АНБ.

Прэзідыум зацвердзіў дырэктараў інстытутаў, выбраных у аддзяленнях. Спісы будуць надрукаваны ў наступным нумары, разам са спісам лаўрэатаў прэмій АНБ.

У. ТРАЦЦЯКОЎ.

● ФОТАПОЗІРК



По традыцыі і будзённай завядзёнцы ўсе мы ў канцы кожнага года падводзім вынікі сваёй працы. Хто ў думках, а працоўныя калектывы на сваіх сходах — афіцыйна. Літаральна ва ўсіх інстытутах нашай акадэміі прайшлі справаздачныя навуковыя саветы. Менавіта на такім мерапрыемстве зроблены і гэты фотакадр.

*На здымку: справаздачны навуковы савет праходзіць у Інстытуце эканомікі.*

Фота Уладзіміра ТАМАШЭВІЧА.

Надзвычай напоўнены падзеямі стаў мінулы год для акадэміка Фёдара Іванавіча Фёдарава. Толькі ў снежні славуты вучоны прымаў віншаванні з нагоды ўзнагароджання медалём (дарэчы, пад трэцім нумарам) Інстытута сінергетыкі Маскоўскай Акадэміі творчасці, членам

## ВІНШУЕМ І ЖАДАЕМ...

якой ён з'яўляецца. На з'ездзе Расійскага аптычнага таварыства імя Раждаственскага (С.-Пецярбург) ён удастоены звання Ганаровага члена таварыства, а з Дубны з Аб'яднанага інстытута ядзерных даследаванняў да маэстра навукі прыйшла прапанова ўвайсці ў склад Камітэта Саветнікаў Міжнароднага Багалюбаўскага Сімпозіума, які пройдзе ў жніўні 1994 года. Фёдар Іванавіч сёлета плануе таксама ўдзел у Міжнародным сімпозіуме па біяніізатропіі (Францыя, май). Прапанова атрымана з Цэнтра навуковых даследаванняў Французскага Камісарыята атамнай энергіі. Дарэчы, Фёдараву прапанавана быць сустаршынёй будучага навуковага форуму.

(Ад уласн. карэсп.).

## Падтрымаем нашу моладзь!

Савет Фонду фундаментальных даследаванняў Рэспублікі Беларусь на сваім пасяджэнні ў канцы снежня 1993 г. прыняў пастанову аб заснаванні сваіх грантаў для маладых вучоных, а таксама зацвердзіў адпаведнае палажэнне. Прызнана мэтазгодным выдзеліць сёлета 16 грантаў фонду, у тым ліку 10 заахвочвальных і 6 — фінансавай падтрымкі памерам да 50 і да 150 мінімальных заробкаў адпаведна для асобных маладых вучоных і груп даследчыкаў.

Фонд фундаментальных даследаванняў падзяляе заклапочанасць тым становішчам, у якім апынулася айчынная навука, у тым ліку навукова-даследчая работа сярод моладзі. Фонд праводзіць пэўную работу па яе актывізацыі. У гэтых мэтах у яго каштарысе прадугледжаны спецыяльны артыкул, які накіраваны на фінансавую падтрымку маладых вучоных.

Гранты фонду для маладых вучоных падраздзяляюцца на заахвочвальныя гранты і гранты фінансавай падтрымкі.

Заахвочвальныя гранты назначаюцца асобным маладым вучоным або групам даследчыкаў — аўтарам праектаў фундаментальных і пошукавых даследаванняў, якія накіраваны на дасягненне якасна новых навуковых вынікаў, якія маюць вялікую тэарэтычную ці практычную значнасць.

Дубліраванне планавай тэматыкі па гэтаму віду грантаў не дапускаецца.

Гранты фінансавай падтрымкі назначаюцца асобным маладым вучоным або групам даследчыкаў з мэтай стварэння пэўных рэсурсных умоў для завяршэння арыгінальных навукова-даследчых работ, якія выконваюцца. Іх назначэнне не цягне за сабой якога-небудзь замаху фінансуючага боку на правы даследчыкаў на інтэлектуальную ўласнасць.

Гранты назначаюцца на тэрмін да двух год.

Гранты фонду для маладых вучоных назначаюцца творча адораным маладым людзям ва ўзросце да 30 год, якія праявілі здольнасці да навукова-даследчай работы і маюць, як правіла, навуковыя публікацыі.

Саіскальнікамі грантаў фонду могуць быць навуковыя работнікі, спецыялісты, аспіранты, студэнты вышэйшых навучальных устаноў Рэспублікі Беларусь.

Склад групы даследчыкаў не павінен перавышаць 3-х чалавек.

Хадайніцтвы аб назначэнні грантаў фонду для маладых вучоных уносяцца навуковымі ўстановамі, вышэйшымі навучальнымі ўстановамі, вучонымі саветамі факультэтаў ВНУ, грамадскімі навуковымі арганізацыямі, акадэмікамі і членамі-карэспандэнтамі Акадэміі навук Беларусі.

Прапановы аб назначэнні грантаў фонду для маладых вучоных павінны грунтавацца, перш за ўсё, на выніках творчай дзейнасці саіскальнікаў.

Заяўка на грант павінна змяшчаць наступны набор дакументаў:

— пісьмовае хадайніцтва з дакладным абгрунтаваннем заслуг саіскальніка,

— выпіску з рашэння вучонага (навуковага) савета навуковай установы, вышэйшай навучальнай установы, факультэта ВНУ, адпаведнага органа грамадскай навуковай установы,

— характарыстыку тэматыкі даследаванняў з указаннем мэты даследавання, абгрунтаваннем арыгінальнасці рашэнняў, якія прапаноўваюцца, а таксама навуковай і практычнай значнасці прагнозных вынікаў,

— навуковую біяграфію саіскальніка, а ў выпадку групы даследчыкаў — кіраўніка калектыву,

— спіс навуковых прац і іншых навуковых дасягненняў па тэме праекта, які прапаноўваецца.

Заяўкі на гранты фонду падаюцца на працягу першага паўгоддзя адпаведнага фінансавага года.

На пасяджэнні савета фонду ішла гаворка аб тым, што і ў далейшым ён будзе ўдзяляць увагу развіццю навукова-даследчай работы сярод творчай моладзі і магчыма ўжо сёлета павялічыць колькасць грантаў для маладых вучоных.

В. КРУЧЫНСКІ,
намеснік выконваючага дырэктара фонду, кандыдат тэхнічных навук.

## БЕЛАРУСКІ ЧЛЕН БРЫТАНСКАГА ТАВАРЫСТВА

**Дырэктар Інстытута фізіялогіі АН Беларусі, член-карэспандэнт Валерый Мікалаевіч ГУРЫН нядаўна вярнуўся з Англіі. Вынікамі свайго візіту ён падзяліўся з карэспандэнтам «Навін АНБ» Аляксандрам Юрыным:**

— Гэта была ўжо другая мая паездка ў Вялікабрытанію ў 1993 годзе. У жніўні я пабываў у Шатландыі, дзе ўдзельнічаў у Міжнародным кангрэсе фізіялагічных навук (Глазга) і сімпозіуме па тэрмарэгуляцыі (Абердзін). Ужо тады з брытанскімі калегамі абмяркоўваліся пытанні нашага супрацоўніцтва, і быў прадстаўлены сумесны грант, удзельнікамі якога сталі Акадэмія навук рэспублікі, Белдзяржуніверсітэт і універсітэт горада Лідса. Цяпер прапанаваны для разгляду на прадмет фінансавання брытанскім бокам і еўрапейскім супольніцтвам яшчэ тры праекты грантаў.

Падчас апошняй паездкі былі таксама абмеркаваны планы сумесных работ з універсітэтам Лідса на 1994 год. Чым выклікана такая зацікаўленасць да нас з боку англійскага універсітэта? Справа у тым, што ў іх вядуцца вельмі сур'ёзныя даследаванні па фізіялогіі. І толькі на фінансаванне грантаў штогод выдзяляецца 3,5 мільёна англійскіх фунтаў. Таму універсітэт з задавальненнем ідзе на міжнародныя кантакты.

Давялося паўдзельнічаць і ў рабоце чарговага з'езда фізіялагічнага Таварыства Брытаніі, які праходзіў у лонданскім Каралеўскім каледжы. На ім я выступіў з дакладам па праблеме механізмаў развіцця субфебрыльных станаў. Даследаванні па гэтаму пытанню ў свеце толькі пачаліся, таму маё выступленне зацікавіла прысутных. На тым жа з'ездзе я быў прыняты ў члены фізіялагічнага Таварыства Брытаніі...

Узровень навуковых даследаванняў у Вялікабрытаніі — адзін з найвышэйшых у свеце. І на міжнародныя кантакты англійскія вучоныя ідуць толькі з прызнанымі навуковымі установамі. Што беларускі Інстытут фізіялогіі ўваходзіць у разрад такіх устаноў — справа, канешне, прыемная. Але больш прыемна, што акрамя гонару, супрацоўніцтва з Брытаніяй прынясе нашаму інстытуту і навейшае абсталяванне, хімічныя прэпараты, без якіх на вяршыні фізіялагічнай навукі доўга не пратрымацца.

● У НАШЫХ СЯБРОЎ

## І ў Якуціі — свая Акадэмія навук

**Напярэдадні Новага года апублікаваны ўказ прэзідэнта Рэспублікі Саха М. Мікалаева «Аб заснаванні Акадэміі навук Рэспублікі Саха (Якуція)».**

Развіўшыся пад крылом спачатку саюзнай, а цяпер Расійскай акадэміі навук, навуковыя ўстановы Якуціі набылі сёння поўную самастойнасць як ў вызначэнні генеральнага накірунку сваіх даследаванняў, так і ў эканамічным плане. Фінансаванне гэтых даследаванняў будзе ажыццяўляцца з бюджэту рэспублікі.

Указам прэзідэнта зацверджаны вынікі выбараў у састаў сапраўдных і членаў-карэспандэнтаў новай акадэміі. У іх ліку 29 дактароў і адзін кандыдат навук. Акадэмія рэспублікі Саха аб'ядноўвае каля 20 навуковых устаноў, у тым ліку 11 акадэмічных, шэраг галіновых інстытутаў, Якуцкі дзяржаўны універсітэт.

(«Известия»).

# Паспееш першым — твой барыш...

## *Оптам і ў розніцу ідзе распродаж дзяржаўных тайн — амаль за нішто*

**У № 228 (890) «Рабочай трыбуны» за 11 снежня 1993 года быў надрукаваны артыкул Рыгора Далжэнкі «Паспееш першым — твой барыш...» Думаем, ён зацікавіць супрацоўнікаў і нашай акадэміі. (Друкуецца са скарачэннямі).**

Для пачатку паўдэтэктыўная, паўкамічная гісторыя. Навуковы супрацоўнік Інстытута фізікі цвёрдага цела АН Беларусі нехта В. Зарэцкі, які адбыў у 1990 годзе на стажыроўку ў Тэхнічны інстытут універсітэта Заходняга Берліна, вырашыў застацца там. Ведаючы аб інтэлектуальных багацпях і слабай іх юрыдычнай абароненасці, аб фінансавай галечы нашай навукі, ён задумаў атрымаць з агульнай бяды асабістую карысць і арганізаваў адразу тры праграмы «дапамогі» беларускай, расійскай і ўкраінскай навуцы. Прыкрыўшыся імёнамі буйных заходніх вучоных і быццам бы падтрымкай буйных карпарацый ЗША, Германіі, камерсант ад навукі разаслаў у многія НДІ і вузы ўмовы конкурсу на лепшы праект у галіне фізікі і наабяцаў залатыя горы — рахункі ў Дойчэ Банку і фінансаванне праектаў, публікацыю работ у часопісе, да слова, дасюль невядомага фізічнага таварыства «Берлін».

Як ён і чакаў, многія ўстановы ўхапіліся за ідэю падзарабіць ці хаця б даць штуршок сваім дзецішчам. А пасля публікацыі ўмоў конкурсу ў бюлетэні «Навіны высокатэмпературнай звышправадзімасці» у Германію хлынуў цэлы паток прапаноў ад інстытутаў, аўтарскіх калектываў і асобных вучоных. Толькі з Харкаўскага фізіка-тэхнічнага інстытута нізкіх тэмператур пайшло 65 заявак на лепшыя распрацоўкі са сферы высокіх тэхналогій. Па аданаках спецыялўстаў, усяго з Украіны «ўплыло» каля двухсот тэм. А колькі з Расіі і Беларусі? Падазрэнні з'явіліся толькі пасля атрымання кожным другім з паслаўшых анатацыі запрашэння ўдзельнічаць у другім туры конкурсу — гэтакая шчодрасць у навуковай практыцы сустракаецца вельмі рэдка. Да таго ж патрабавалася падрабязна выкласці занадта спецыфічныя звесткі па тэмах. Запахла аферай. Кінуліся вучоныя мужы шукаць фізічнае таварыства «Берлін». Але ні аб ім, ні аб конкурсе, а тым больш аб фінансаванні работ у міністэрстве навукі ў Германіі нічога не ведалі. Калі ж дазваніліся да самога Зарэцкага і спыталі аб мэце яго задумы, адказ быў просты, як яблык: прапаную, маўляў, работы фірмам; што яны адбяруць — на тое я заключу з імі дагаворы, а аўтары — са мною як з пасрэднікам.

Пагадзімся, гэта прызнанне — самае бязвіннае з магчымых. Спроба ўсяго толькі зарабіць пасрэдніцтвам на звестках, якія ўяўляюць цікавасць для замежных фірм. Магло быць горш. На жаль, у апошні час былі зафіксаваны выпадкі крадзяжу даных, якія складаюць дзяржаўную тайну.

Развал эканомікі, дзяржаўнасці, маралі прывёў да страты многімі жыццёвых арыенціраў, маральных асноў. I таму за пэўную ўзнагароду, у асноўным гэта долары, прапаноўваецца што хочаш. Так, у час знаходжання ў Кіеве замежнай дэлегацыі адзін з супрацоўнікаў вядучага навукова-даследчага інстытута, каб звярнуць увагу на сябе, а, магчыма, і атрымаць запрашэнне да супрацоўніцтва, паказаў гасцям зусім сакрэтны дакумент, у якім утрымліваліся характарыстыкі сучаснага баявога радыёэлектроннага комплексу.

Вядома, жыць у наш напружаны, цяжкі час як-небудзь трэба. Тым больш, калі гаворка ідзе аб неабходнасці інтэграцыі ў сусветную эканамічную прастору. Аднак робім мы гэта паспешліва, няўмела, а іншы раз і злачынна. Мы з шырынёй славянскай у парыве дэмакратызацыі адкрылі перад светам усе свае запаснікі, выставілі для агульнага агляду нават тое, што магло быць з розумам прададзена і прынесці немалыя дывідэнды. За посуд альбо пусцяковіну мы аддаем назапашанае дзесяцігоддзямі, разбазарваем перавагі абароннага патэнцыялу. Мне расказвалі, як кіраўніцтва зноў жа аднаго з украінскіх НДІ прапанавала буйной замежнай фірме свае распрацоўкі для далейшага сумеснага засваення. Там уважліва вывучылі дакументацыю і прыйшлі да высновы: так, нашы ідэі адпавядаюць асноўным тэхнічным накірункам і канкурэнтаздольныя на сусветным рынку да 1995, а асобныя — да 2000 года. Чакаемы эфект ад укаранення прапанаванай тэхналогіі складае каля паўтрыльёна (!) долараў. Але ўкараняць вырашылі без нас, запрасіўшы, аднак, асобных спецыялістаў папрацаваць у іх.

Уся справа ў тым, што мы ўступаем у новую эру рыначных адносін, у сусветнае згуртаванне, не маючы пад сабой трывалай заканадаўчай базы, прававых асноў і норм, якія б абаранялі навуковую, вытворчую і камерцыйную дзейнасць ад замахаў разведак і нядобрасумленных канкурэнтаў, блытаем дзяржаўную тайну з камерцыйнай і ўсё разам — з інтэлектуальнай уласнасцю. У свеце даўно ўжо ў выніку жорсткай канкурэнтнай барацьбы склаўся дастаткова эфектыўны апарат аховы інтарэсаў дзяржавы, прадпрымальніка, прыватнай асобы. У ЗША, напрыклад, тэхнічныя і тэхналагічныя дасягненні прыватных фірм ахоўваюцца як сакрэты вытворчасці і разглядаюцца як тавар, які мае сваю цану. А калі так, то яны трапляюць пад «дах» закона аб прыватнай уласнасці. У Германіі да камерцыйных тайн аднесены ўсе справы фірм: планаванне, нарады, фінансаванне, кампаньёны. Кліентура таксама ахоўваецца законам. У нас жа пераход ад татальнай сакрэтнасці да адкрытага ў цывілізаваных рамках грамадства суправаджаецца нярэдка крайнасцямі, а прыняцце неабходных законаў — нічым не вытлумачальнай маруднасцю. Акрамя, вядома ж, той прычыны, што гэта каму-небудзь трэба.

Успамінаюцца тэлефонныя даведнікі мінулых гадоў, дзе днём з агнём не знойдзеш абаронных заводаў. Няма іх там і сёння, хаця з краіны выехалі сотні тысяч людзей, і на Захадзе ведаюць з дакладнасцю да шурупа, чаго і колькі выпускае кожнае быццам бы сакрэтнае прадпрыемства.

Толькі на прыдпрыемствах Украіны дзейнічаюць каля 12 тысяч рэжымна-сакрэтных падраздзяленняў, якія адрабляюць свой хлеб правілам простым як дышла — не пушчаць! Дырэкцыі заводаў за завесай сакрэтнасці адчувалі сябе як за каменнай сцяной. I вось цяпер гэту скрыпучую машыну трэба развярнуць у бок здаровага сэнсу. На Украіне ў гэтым напрамку робяцца толькі першыя і вельмі ўжо асцярожныя крокі. Летам 1993 года створаны першы ў СНД Камітэт па пытаннях дзяржаўных сакрэтаў.

Праблема дзяржаўных, камерцыйных і іншых тайн звязалася моцным вузлом яшчэ ў адной плоскасці, ужо інтэрнацыянальнай. З распадам Саюза кожная суверэнная дзяржава пачала ствараць свой апарат сакрэтнасці самастойна. Але ж засталося шмат агульнага і ў палітыцы, і ў абароне, і ў вытворчасці, і ў навуцы, што захавала сваю прыцягальнасць для іншых краін і іх спецслужб. У рэшце рэшт, накапілася шмат бягучых пытанняў, якія патрабуюць штодзённага вырашэння. I яны вырашаюцца як каму Бог на душу пакладзе. Гэта датычыцца, дапусцім, выезда за далёкую мяжу грамадзян, якія валодаюць сакрэтамі краін блізкага замежжа, продажу «прыватызаванай» найноўшай зброі, якая вырабляецца ў іншай краіне СНД, і шмат іншага. Улічваючы сітуацыю, падчас сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў Садружнасці ў Мінску ў студзені гэтага года было падпісана пагадненне аб узаемным забеспячэнні захаванасці міждзяржаўных сакрэтаў. Прайшоў ужо год, але воз і цяпер там, пагадненне, па сутнасці, засталося на паперы. Галоўная перашкода — няма механізму яго прымянення і не было нават спробы стварыць яго. А трэба пазарэз, хаця б па самых неадкладных пытаннях. Узяць рассакрэчванне. Агульныя тайны аберагаць быццам бы дагаварыліся, а выводзіць іх з абароту — не. У выніку цярпіць эканоміка, людзі. Але дзе там! Няма калі. Ды і навошта? Паспееш першым — твой барыш. Не чуваць нават крыкаў: хто больш! Хапаюць першы прапанаваны ганарар. Толькі што пайшло на таргі? Не прадаць бы незнарок калодзеж, з якога самі ваду п'ём.

**Рыгор ДАЛЖЭНКА.**
**(Пераклад з рускай мовы А. Аляксандравай).**

# Выхад з глабальнага крызісу ёсць!

■ ■ ■

***РЭКАМЕНДАЦЫІ МІЖНАРОДНАЙ НАВУКОВА-ПРАКТЫЧНАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ «ПРЫЧЫНЫ КРЫЗІСУ І ШЛЯХІ АЗДАРАЎЛЕННЯ ЭКАНОМІКІ», ЯКАЯ ПРАЙШЛА Ў МІНСКУ Ў ЛІСТАПАДЗЕ 1993 г.***

■ ■ ■

**Абмеркаваўшы прычыны крызісу і шляхі аздараўлення эканомікі ў дзяржавах, што спазналі «перабудову», удзельнікі канферэнцыі — спецыялісты розных галін, вучоныя і практыкі з Беларусі, Расіі, Украіны, Казахстана, Латвіі, Малдовы, Азербайджана, Кыргызстана, ЗША, Германіі, Чэхіі, Кітая — прыйшлі да высновы, што ў гэтых дзяржавах няма такіх эканамічных праблем, для вырашэння якіх трэба ўжываць насілле або звяргаць органы ўлады. Не трэба новых рэвалюцый, патрэбны навуковыя рашэнні па фарміраванню рацыянальных эканамічных і сацыяльных адносін, якія б спрыялі росту вытворчасці і абмену, скарачэнню выдаткаў на адзінку прадукцыі, устараненню супярэчнасцей у размеркаванні грамадскага прадукту.**

**Удзельнікі канферэнцыі падтрымліваюць палітыку раздзяржаўлівання і прыватызацыі як накіраванне руху ад планава-адміністрацыйнай да дэмакратычнай, прававой, эканамічна развітай дзяржавы, калі яна адпавядае інтарэсам павышэння эфектыўнасці нацыянальнай эканомікі, уздыму ўзроўню жыцця і агульнага дабрабыту народа. Разам з тым канферэнцыя адзначае, што ў сучаснай практыцы рэформ пакуль што пераважаюць сітуацыі, у якіх інтарэсы вялікіх груп насельніцтва і грамадскай мэтазгоднасці ў цэлым адсоўваюцца на задні план і нават увогуле губляюцца з вачэй. З-за недахопу сродкаў у бюджэтах і палажэння прадпрыемстваў, што пагаршаецца, намаганні дзяржаўных структур усё больш накіроўваюцца на тое, каб хутчэй раздзяліць, прадаць, збыць народны набытак, закрыць неадкладныя праблемы і зняць з сябе адказнасць за ўзровень жыцця людзей. Праз спешныя рашэнні, што прымаліся пад уплывам адзначаных прычын, крэдытна-фінансавых абавязацельстваў, моды і асабістых інтарэсаў, прыватызацыя ўсё часцей ператвараецца ў самамэту, якая не адпавядае задачам павышэння агульнай эфектыўнасці грамадскай вытворчасці. У выніку такіх «рэфармацый» зніжаюцца аб'ёмы вытворчасці і нацыянальнага даходу, узрастае інфляцыя і беспрацоўе, узмацняюцца ценявыя працэсы ў эканоміцы, узнікаюць злоўжыванні, грамадства расслойваецца на малыя групы са звышвысокім спажываннем і на масу насельніцтва з нізкім узроўнем дастатку. Усё гэта параджае незадавальненне людзей, сацыяльныя канфлікты, патрабаванні датэрміновага спынення паўнамоцтваў выбарных і выканаўчых органаў, дыскрэдытуе ідэі прыватызацыі, раздзяржаўлівання і рэформ увогуле.**

**Вопыт «перабудовы» і яе вынікі пераканаўча паказваюць, што ў пытаннях рэфармавання грамадскіх адносін неабходна дзейнічаць гранічна абачліва, не зніжаючы ўзроўню жыцця народа і ўлічваючы, што насільны передзел маёмасці ніколі не прыводзіў да дадатных вынікаў.**

**Канферэнцыя адабрае канцэпцыю эканамічных рэформ, прадстаўленую ў дакладах аргкамітэта Навукова-эканамічнага цэнтра «Экон» (г. Мінск) і Міжнароднай асацыяцыі прадпрыемстваў з уласнасцю работнікаў як навуковую аснову для фарміравання сістэмы эканамічных грамадскіх адносін, пры ўкараненні якой:**

**— работнікі атрымліваюць найвышэйшую матывацыю да эфектыўнай працы і развіцця сродкаў вытворчасці пры максімуме выгады для сябе, уладальнікаў прадпрыемстваў і грамадства ў цэлым;**

**— прадпрыемствы атрымліваюць найбольшы прыток зваротных сродкаў і асноўнага капіталу для развіцця вытворчасці, свабоду для прадпрымальніцтва і метад пабудзіць работнікаў да эфектыўнай дзейнасці, узмацніць свядомую дысцыпліну працы пры поўнай матэрыяльнай адказнасці кожнага члена працоўнага калектыву за нядобрасумленнае выкананне працоўных абавязацельстваў;**

**— дзяржава атрымлівае надзейную крыніцу для дастатковага фінансавання грамадска неабходных мерапрыемстваў, развіцця навукі, народнай адукацыі, аховы здароўя, нацыянальнай культуры без дэфіцыту дзяржбюджэтаў і інфляцыі.**

**Заканадаўчым і выканаўчым органам, міністэрствам, ведамствам і прадпрыемствам для аздараўлення эканомікі**

**канферэнцыя рэкамендуе:**

**1. Прыняць склаўшыеся на дадзены момант абставіны ў дзяржаве, галіне, на прадпрыемстве як вынік заканамернасцей і не шукаць вінаватых. Не дапушчаць паспешнасці ў прыняцці кардынальных рашэнняў, паколькі няправільныя, непрадуманыя меры могуць рэзка пагоршыць і дэстабілізаваць палажэнне.**

**2. Разгледзець з пазіцый дзяржаўнага інтарэсу канцэпцыю эканамічных рэформ, адобраную канферэнцыяй, разабрацца ў механізме крызісных працэсаў і ўнесці адпаведныя карэктывы ў стратэгію і тактыку далейшых пераўтварэнняў.**

**3. Прыдаваць найважнейшае значэнне пытанням эканамічнай адукацыі кадраў і насельніцтва як галоўнай умове поспеху.**

**Канферэнцыя лічыць, што выхад з глабальнага эканамічнага крызісу сучаснасці ёсць, і ў дзяржавах, дзе будзе належная ўвага да дадзеных рэкамендацый, ён магчымы ў бліжэйшы час.**

**Я. ДОЎГЕЛЬ,**
старшыня аргкамітэта канферэнцыі, дырэктар **НЭЦ «Экон».**

• ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

КНІГІ

# Атлас, аналагу якому няма

• ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

# Патрэбны зусім іншыя рэкамендацыі

**Эксперты з Арганізацыі эканамічнага супрацоўніцтва і развіцця (АЭСР) далі свае заключэнні аб навуцы Расіі (гл. арт. «Рекомендации, от которых нельзя отмахнуться» у №№ 45—47 «Навін»). І адмахнуцца ад іх сапраўды нельга: іх можна і трэба аспрэчваць.**

Свае меркаванні эксперты АЭСР грунтуюць на палажэнні, што доля затрат дзяржавы на навуку павінна быць прапарцыянальная долі гэтай дзяржавы ў сусветным багацці. За ўзор пры гэтым прымаецца ЗША. Вывад экспертаў адносна Расіі (і іншых рэспублік былога Саюза): іх навуку трэба скараціць утрая. Для Беларусі гэта азначае — з 107296 да 35765 чалавек.

Паводле вынікаў экспертызы, Японіі належыць мець навуку ў 300 тысяч чалавек. Але Японія мае амаль столькі ж, колькі ЗША (935 тысяч) і зусім не збіраецца ісці за чужымі парадамі. У японцаў свае погляды на патрэбнасць краіны ў навуцы і дынамічныя планы развіцця.

Кітаю, паводле яго долі ў сусветным багацці, належыць мець навуку не больш 253 тысяч чалавек. Рэальна ж кітайская навука налічвае 8 мільёнаў 700 тысяч чалавек, г. зн. у 34 разы больш! Адных інстытутаў навуказнаўства там 200 (для параўнання: у Беларусі — ніводнага), што сведчыць аб імкненні не скарачаць навуковыя даследаванні, а наадварот — разгортваць іх і ўдасканальваць.

Аналіз трох рэгіёнаў, якія актыўна прадуцыруюць навуку і базіруюць на ёй перадавыя тэхналогіі (ЗША, Японія, Заходняя Еўропа), паказвае, што ва ўсіх іх вырашальным фактарам, стымулам і фінансавым рэсурсам навукі з'яўлялася дзяржава. Менавіта ў гэтых рэгіёнах ёсць канкурэнцыя вытворцаў тавараў, там рынак і эканоміка арганічна спалучаюцца з навуковым і тэхналагічным прагрэсам.

На жаль, у той мадэлі рыначнай эканомікі, што ўкараняецца ў нас, гэтае спалучэнне не прадугледжана. Інфляцыя, бюджэтны дэфіцыт, адсутнасць нацыянальнай валюты падштурхоўваюць дзяржаўныя органы мінімізіраваць затраты. Так узнікла канцэпцыя выжывання навукі — бесперспектыўная і шкодная. Яна пазбаўляе вучоных стымулаў да працы, разбурае іх упэўненасць у заўтрашнім дні. Як вынік — развал навуковых калектываў, «уцечка мазгоў» і г. д.

Фактычна навука — канцэнтрат інтэлекту грамадства. Зараз нам, як мыслячаму грамадству, прапануецца своеасаблівая трэпанацыя чэрапа: «Вы, беларусы, не такія багатыя, каб дазволіць сабе мець такія дарагія мазгі». Пагадзіцца з такой лабатаміяй могуць толькі вельмі недальнабачныя людзі.

Успомнім урок гісторыі XX стагоддзя. Менавіта навука выратавала, рэфарміравала і трансфарміравала капіталізм, распрацавала ўсе яго сучасныя буферна-рэгулятыўныя і сацыяльна-выратавальныя прыстасаванні, дапамагла яму выжыць.

Нам здаецца, што Беларусь павінна насуперак любым эканамічным цяжкасцям пайсці на самыя цяжкія ахвяры, але захаваць і зберагчы свой самы каштоўны і выратавальны скарб — навуку.

Для гэтага патрэбна зусім новая навукова-тэхнічная палітыка. У ёй прынцыпы эксплуатацыі прыроды і ваеннай арыентацыі навукі будуць заменены на прынцыпы сацыяльнай арыентацыі эканомікі, навукаёмістасці і тэхналагічнасці прадукцыі.

Кожны вучоны — патэнцыяльны праблемавырашальнік шырокага дыяпазону. Праблем жа ў грамадстве назапасілася вышэй галавы, што суб'ектыўна пагаршае сітуацыю. Па сутнасці, праблемазавал дагэтуль спрабуе ліквідаваць толькі сфера кіравання. Вучоныя ў гэтым удзельнічаюць слаба. Між тым у іх ёсць усё, што патрабуецца для паспяховага праблемавырашэння: веданне методык, шырокая адукаванасць, праблемнае бачанне і г. д.

У гісторыі вядомы прыклады часовай пераарыентацыі структур грамадства на іншыя функцыі: выкарыстанне арміі для выратавання ўраджаю, мэтавае перапрафіліраванне вучэбных і даследчых інстытутаў і да т. п. Ствараліся магутныя часовыя творчыя калектывы колькасцю нават у сотні тысяч чалавек (напрыклад, для распрацоўкі тэрмаядзерных і касмічных праектаў). Зараз жа ў Беларусі патрабуецца даць праблемную «загрузку» усяго толькі 20—30 тысячам чалавек. Як гэта зрабіць — тут патрэбны зусім іншыя рэкамендацыі. І яны, канешне, будуць выдадзены, бо такая праблема таксама вырашальная навуковымі метадамі.

Антон СЛАНІМСКІ,
кандыдат эканамічных навук, вучоны сакратар Беларускай інжынернай акадэміі;
Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ,
кандыдат фізіка-матэматычных навук, намеснік старшыні прэзідыума руху Беларускі інтэлектуальны рэсурс.

• РАЗМОВА З ЦІКАВЫМ СУБЯСЕДНІКАМ

# Патэнт ад... Белпатэнта

(Заканчэнне.

Пачатак у № 50 за 1993 г.).

Апрача таго, пры Белпатэнце створаны Вучэбна-даследчы цэнтр прамысловай уласнасці, які на дагаварных умовах можа аказваць любыя паслугі, звязаныя з аховай і выкарыстаннем аб'ектаў прамысловай уласнасці.

Варта дадаць, што пры Рэспубліканскай навукова-тэхнічнай бібліятэцы, якая падведамасна Белпатэнту, адкрыты бясплатны кансультацыйны пункт па пытаннях аховы і выкарыстання аб'ектаў прамысловай уласнасці, выплаты аўтарскіх узнагарод.

*— Колькі будзе каштаваць беларускі патэнт вынаходніку?*

— Устаноўлены наступныя патэнтныя пошліны (у мінімальных зарплатах): за падачу заяўкі — 0,8; за экспертызу — 4,0;за публікацыю — 0,8; за выдачу патэнта — 2,4; за падтрыманне патэнта ў сіле (пачынаючы з трэцяга года дзеяння патэнта) — 0,8.

Палажэнне аб пошлінах, а таксама іншыя нарматыўныя дакументы Белпатэнта, публікуюцца па меры іх выхаду ў зборніках «Прамысловая ўласнасць», якія можна набыць у Белпатэнце.

*— Колькі заявак на беларускія патэнты пададзена за час існавання вашага ведамства?*

— Па стану на 15 снежня 1993 г., у Белпатэнт пададзена 990 заявак на вынаходкі (636 — ад беларускіх заяўнікаў і 354 — ад замежных), 56 заявак на прамысловыя ўзоры і 1620 — на таварныя знакі.

Апрача таго, мы атрымалі вялікую колькасць хадайніцтваў аб перарэгістрацыі дакументаў былога СССР на адпаведныя беларускія дакументы.

*— У цяперашніх умовах спаду вытворчасці вынаходнікам, відаць, больш выгадна афармляць патэнты за мяжой. Якая ў гэтым магла б быць роля Белпатэнта?*

— Праблема ў тым, што з-за адсутнасці валюты на аплату патэнтных пошлін прадпрыемствы і арганізацыі практычна не патэнтуюць за мяжой свае вынаходкі. Аднак паслугі Белпатэнта прадугледжаны: па выбару краін патэнтавання, інфармацыя аб патэнтных пошлінах у розных краінах, дапамога (у Цэнтры прамысловай уласнасці) у састаўленні міжнародных заявак. Такія ж паслугі аказваюць і патэнтныя паверáныя, праз каторых менавіта і належыць падаваць заяўкі на патэнтаванне за мяжой. Без іх можна падаваць заяўкі толькі ў Расію і Украіну, з патэнтнымі ведамствамі якіх ёсць адпаведныя дамоўленасці.

Што б памагло наладзіць патэнтаванне за мяжой? Стварэнне Фонду падтрымкі вынаходніцтва, уклад у які маглі б зрабіць Белпатэнт, АНБ, Міністэрства адукацыі і іншыя зацікаўленыя арганізацыі. Яго сродкі маглі б выкарыстоўвацца для асваення найбольш перспектыўных вынаходак і прамысловых узораў, аплаты пошлін па замежнаму патэнтаванню, правядзення рэкламна-камерцыйнай і ліцэнзійнай работы.

*— Ці мелі вы адносіны да праекта Патэнтнага закона РБ?*

— Так, нашы спецыялісты прынялі актыўны ўдзел у распрацоўцы першага пакета патэнтных законаў і зараз працуюць над законамі «Аб патэнтах на карысныя мадэлі», «Аб патэнтах на гатункі раслін», «Аб фірменных найменнях». Першыя законы: «Аб патэнтах на вынаходкі», «Аб патэнтах на прамысловыя ўзоры», «Аб таварных знаках і

(Заканчэнне на 4-й стар.).

**24 снежня ў канферэнц-зале прэзідыума АН Беларусі адбылася прэзентацыя першага тома «Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак». Арганізатарам урачыстасці выступіў Фонд фундаментальных даследаванняў РБ, які з'яўляецца таксама галоўным спонсарам выдання. На прэзентацыі прысутнічалі віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук акадэмік Р. Г. Гарэцкі, акадэмік-сакратар Аддзялення хімічных і геалагічных навук акадэмік І. І. Ліштван, прадстаўнікі іншых падраздзяленняў АН і шматлікія госці.**

Старшыня секцыі гуманітарных навук ФФД РБ акадэмік Генадзь Міхайлавіч Лыч адкрыў прэзентацыю. Ва ўступным слове ён павіншаваў усіх з доўгачаканым выхадам у свет першага тома кнігі, аналагу якой пакуль няма на тэрыторыі былога Саюза, і сказаў шмат добрых слоў у адрас аўтарскага калектыву. Дырэктар Інстытута мовазнаўства імя Я. Купалы член-карэспандэнт АНБ А. І. Падлужны зазначыў актуальнасць той працы, якая вялася доўгі час і дагэтуль вядзецца ў інстытуце, і адным з вынікаў якой стаў «Лексічны атлас...». Аляксандр Іосіфавіч выказаў словы ўдзякі Фонду фундаментальных даследаванняў, без удзелу якога кніга не ўбачыла б свет. І яшчэ ён выказаў надзею, што астатнія тамы «Лексічнага атласа...» (усяго іх пяць) не прымусяць сябе доўга чакаць.




Лагічным было выступленне выканаўчага дырэктара ФФД Э. І. Васільева. Калі перад аўтарскім калектывам паўстала амаль невырашальная праблема фінансавання выдання кнігі, то менавіта фонд першым працягнуў руку дапамогі. Эдуард Іванавіч з задавальненнем гаварыў пра супрацоўніцтва з Інстытутам мовазнаўства, вынікам якога стала кніга, змест і афармленне якой адпавядаюць найвышэйшым патрабаванням. Пасля прыемных слоў Э. І. Васільеў перайшоў да не менш прыемнай справы — уручэння першых экземпляраў кнігі аўтарам «Лексічнага атласа...». Вось іх імёны: Ганна Арашонкава, Эмілія Бірыла, Аляксей Груцо, Уладзімір Ісаенка, Фёдар Клімчук, Зінаіда Краўчанка, Аляксандр Крывіцкі, Святлана Лобач, Валянціна Лемцюгова, Юзэфа Мацкевіч, Павел Міхайлаў, Яўгенія Рамановіч, Васіль Старычонак, Віктар Цітоў, Алена Чабярук і Іван Яшкін.

Падчас перапынку адбыўся невялічкі канцэрт. Лаўрэаты Дзяржаўнай прэміі Беларусі цымбаліст Алесь Лявончык і баяніст Міхась Лявончык выканалі папулярныя народныя мелодыі. А саліст беларускай капелы Алесь Радчанка праспяваў беларускія песні, прычым у выкананні апошняй — «Зорка Венера» — яму дапамагала амаль уся зала.

Завяршаючую частку прэзентацыі прысвяцілі тым, хто ў большай ці меншай ступені меў дачыненне да з'яўлення «Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак». Адны дапамаглі грашыма, другія — сваімі ведамі, трэція — яшчэ нечым. Усе яны атрымалі ў падарунак першы том кнігі. Адам Мальдзіс, які дапамагаў у стварэнні лексічнага атласа, прапагандаваў яго за мяжой, звярнуў увагу на тое, што такая фундаментальная праца беларускіх вучоных, цікавасць да якой праявілі буйнейшыя навуковыя ўстановы свету, выйшла тыражом усяго ў 1550 экземпляраў. І ў хуткім часе яна стане бібліяграфічнай рэдкасцю...

Чую ў адрас арганізатараў прэзентацыі пытанне некаторых чытачоў: «Зразумела, у сённяшніх умовах выхад кнігі, сапраўды, падзея. Але рабіць з гэтага такую ўрачыстасць — ці не занадта ўжо?» Замест прамога адказу на пытанне скажу некалькі слоў пра «Лексічны атлас...»

Кніга (усе 5 тамоў) з'яўляецца вынікам дваццацігадовага вывучэння супрацоўнікамі Інстытута мовазнаўства слоўнікавага складу беларускіх гаворак. Ён уключае каля 2000 лінгвістычных карт, 200 000 слоўнікавых адзінак. Матэрыялам для выдання стала каля 4000 найменняў прадметаў, прыкмет, працэсаў матэрыяльнай і духоўнай культуры, якія апісаны ў 150 вёсках рэспублікі. Велізарны лексічны матэрыял атласа мае неацэнную навуковую значнасць. Ён можа пастаянна выкарыстоўвацца для нармалізацыі літаратурнай мовы, выпрацоўкі тэрміналогіі, вывучэння этнагенезу беларусаў... Сказанага, напэўна, хопіць, каб зразумець, што да нас прыйшла не проста кніга. Нездарма адзін з выступаўшых навукоўцаў паставіў «Лексічны атлас...» па значнасці ў адзін рад з Беларускай савецкай энцыклапедыяй і Бібліяй Скарыны.

І яшчэ. Далёка не ўсе краіны ў свеце маюць падобныя выданні. «Лексічны атлас беларускіх народных гаворак» узняў наша мовазнаўства да эліты сусветнай мовазнаўчай навукі. І цяпер ніводзін адукаваны вучоны не зможа гаварыць пра беларускую мову, як пра «северо-западный диалект русского языка».

Алесь ЮРЫН.

НА ЗДЫМКАХ: «віноўнік» урачыстасці; удзельнікі канцэрта — лаўрэаты Дзяржаўнай прэміі Беларусі цымбаліст Алесь Лявончык і баяніст Міхась Лявончык выканалі папулярныя народныя мелодыі.



# Патэнт ад... Белпатэнта

(Заканчэнне.
Пачатак на 3-й стар.).

знаках абслугоўвання» — паспяхова працуюць. Аб гэтым сведчыць паток адпаведных заявак ад айчынных і замежных заяўнікаў.

*— Ці слушна, што беларускія вынаходнікі лічаць за лепшае афармляць патэнты перш за ўсё ў Расіі?*

— Інтэграцыя эканомікі Беларусі і Расіі патрабуе патэнтнай аховы беларускіх распрацовак і на тэрыторыі Расіі. Патэнтнымі ведамствамі РБ і РФ парафіравана міждзяржаўнае пагадненне аб супрацоўніцтве ў галіне аховы прамысловай уласнасці, якое ў бліжэйшы час будзе падпісана. Упраўленнем экспертызы Белпатэнта падпісана пагадненне з НДІ дзяржаўнай патэнтнай экспертызы (г. Масква) аб супрацоўніцтве пры правядзенні экспертызы заявак. Для беларускіх і расійскіх заяўнікаў устаноўлены рэжым найбольшага спрыяння пры падачы заявак у Белпатэнт і ў Роспатэнт. Іх можна падаваць напрамую без пасрэдніцтва патэнтных павераных.

Аднак, перш чым адправіць заяўку ў Роспатэнт, яе, паводле законаў РБ, трэба зарэгістраваць у Белпатэнце, альбо, калі атрыманне патэнта Беларусі немэтазгодна, узяць дазвол на патэнтаванне без падачы заяўкі ў Белпатэнт.

У адпаведнасці з пастановай Вярхоўнага Савета РБ, аўтарскія пасведчанні і патэнты былога СССР могуць быць перарэгістраваныя ў Рэспубліцы Беларусь на тэрмін, што застаўся да 20 гадоў з даты падачы заяўкі. Для патэнтаў СССР заяўкі прымаюцца да 5 лютага 1994 г. Для заявак на вынаходкі, па якіх ёсць экспертныя рашэнні аб выдачы ахоўнага дакумента, тэрмін перарэгістрацыі ў Белпатэнце — да 5 жніўня 1994 г.

*— Дапусцім, вынаходнік атрымаў беларускі патэнт. Як адбываецца продаж ліцэнзіі? Якая роля ў гэтым прызначана Белпатэнту?*

— Працэдура продажу ліцэнзій выкладзена ў маёй кнізе «Научно-технические нововведения: организационно-экономический механизм управления в условиях перехода к рынку» (Мінск, «Універсітэцкае», 1993). Белпатэнт будзе аказваць паслугі па падрыхтоўцы праектаў ліцэнзійных дагавароў, правядзенню маркетынгавых даследаванняў, рэкламна-камерцыйнай рабоце, арганізацыі перамоў, разліках вартасці ліцэнзій і г. д. праз створаны ім Цэнтр прамысловай уласнасці.

*— Нядаўна доктар тэхнічных навук А. Елізараў, адгукаючыся на ваш артыкул у ліпеньскім нумары «Рэспублікі», заўважыў, што рэалізацыя ноу-хау можа быць не менш выгаднай справай, чым продаж ліцэнзіі ці даход ад выкарыстання вынаходкі. Ці згодны вы з ім?*

— І вынаходкі, і ноу-хау (асобна ці як частка вынаходкі) могуць быць рэалізаваны на ліцэнзійнай аснове. Але ў выпадку адсутнасці патэнтнай аховы ёсць вялікая рызыка, што даход у выніку раскрыцця ноу-хау не будзе атрыманы. Да таго ж, калі ў пагадненні не абгавораны ўмовы канфідэнцыяльнасці, то ноу-хау, перададзенае па ліцэнзіі, перастае існаваць. Гэта па-першае. Па-другое, кошт патэнтнай ліцэнзіі значна вышэйшы. Не выпадкова ж фірмы прамысловасці развітых краін у большасці выпадкаў лічаць за лепшае мець патэнтную ахову. Тэхнічная і камерцыйная рызыка ў гэтым выпадку істотна зніжаецца або ўвогуле знікае. Па-трэцяе, нашы распрацоўшчыкі часам прапаноўваюць неасвоеныя ў вытворчасці тэхнічныя рашэнні. Калі іх не ахаваць патэнтамі, то можна проста згубіць назаўсёды. Вопытныя фірмы, бывае, бяруць патэнты на сваё імя, а потым прапануюць купіць нам на іх ліцэнзіі. Такіх выпадкаў у былым СССР было шмат. Таму лепш не рызыкаваць.

*— У вынаходнікаў Беларусі на руках напэўна ёсць нямала аўтарскіх пасведчанняў, заяўкі на пераафармленне якіх не былі пададзены. Што яны зараз — проста паперкі без значэння?*

— Усе аўтарскія пасведчанні, на якіх не скончыўся 20-гадовы тэрмін з даты падачы заяўкі, могуць быць перарэгістраваны на патэнты РБ у любы час. Па іх можна атрымаць таксама патэнты Украіны, Казахстана і іншых рэспублік, дзе гэта прадугледжана заканадаўствам.

*— У рэдакцыю «Навін», у Фонд фундаментальных даследаванняў звяртаюцца супрацоўнікі АНБ з прапановай — арганізаваць банк ідэй і патрэбнасцей. Дапусцім, такі банк створаны. Як Белпатэнт яго будзе ўспрымаць: як структуру дружалюбную ці як канкурэнта?*

— Прапановы па стварэнню банка ідэй і патрэбнасцей выказваюцца ўжо даўно. Справа гэта, на наш погляд, можа быць карыснай. Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што ідэя, перш чым будзе рэалізавана ў вытворчасці, патрабуе ўвасаблення ў канкрэтных тэхнічных рашэннях-вынаходкі, ноу-хау і г. д. Таму па нашай прапанове, падтрыманай міністэрствамі і ведамствамі, ствараецца банк новых тэхналогій — як запатэнтаваных, так і тых, дзе змяшчаюцца ноу-хау. Патрэбнасць галіновых кіраўніцкіх структур, прадпрыемстваў, інавацыйных фірм праяўляецца галоўным чынам у выкарыстанні гатовых тэхнічных рашэнняў. Гэта пацвярджае і сусветны вопыт. Мне, напрыклад, невядомы банкі ідэй у іншых краінах, таксама як іх эфектыўнасць. Магчыма, гэта дарагое здавальненне — рэгістраваць усе ідэі, тым больш, што сярод іх могуць быць і яўна марныя або ўводзячыя ў падман вучоных, прадпрымальнікаў, грамадскасць. Павінна быць выбіральнасць і экспертная ацэнка.

Наўрад ці людзі, што генерыруюць ідэі, захочуць іх уносіць у банк без гарантыі аховы патэнтным ці аўтарскім правам. Канкурэнцыі я тут не бачу, у кожнай са структур свае функцыі.

*— Чым цяпер займаецца Белпатэнт? Якую долю ў яго дзейнасці займае работа з айчыннымі заяўнікамі і якую — з замежнымі?*

— Белпатэнт прымае заяўкі на аб'екты прамысловай уласнасці, праводзіць экспертызу па просьбе заяўнікаў, займаецца стварэннем аўтаматызаванай інфармацыйна-кіравальнай сістэмы, арганізацыяй фонду экспертаў, банка новых тэхналогій, падрыхтоўкай патэнтных павераных, рэгістрацыяй ліцэнзійных дагавароў і дагавароў аб уступцы правоў на патэнты, вядзенне дзяржаўнага рэестру зарэгістраваных аб'ектаў прамысловай уласнасці. У агульнай масе пададзеных заявак доля замежных: па вынаходках — 25 працэнтаў, па таварных знаках — 75 працэнтаў.

*— Ці ў стане Белпатэнт правесці кваліфікаваную і глыбокую ў часе экспертызу заявак (па патэнтную чысціню, патэнтаздольнасць), калі патэнтны фонд, што раней быў «сваім», стаў «чужым»?*

— У веданне Белпатэнта перададзена Рэспубліканская навукова-тэхнічная бібліятэка з фондам больш за 20 мільёнаў адзінак захавання. Яе патэнтны фонд дазваляе весці пошук на глыбіню 50 і болей гадоў па 46 краінах сусвету. Гэты фонд калісьці стварэўся як рэгіянальны для Беларусі і Прыбалтыкі. Таму правядзенне экспертызы на патэнтаздольнасць і патэнтную чысціню ў прынцыпе магчыма. Але гэты працэс пакуль што працаёмкі з-за адсутнасці корпуса экспертаў, які мы толькі што пачынаем фарміраваць. Аднак на аснове дамоўленасці з Роспатэнтам нашы эксперты маюць магчымасць карыстацца фондам у Маскве, праводзіць сумесна з расійскімі спецыялістамі работу па пошуку патэнтаў і экспертызе вынаходак. Па шэрагу напрамкаў экспертаў у нас няма, і па такіх заяўках поўную экспертызу праводзіць Маскоўскі НДІ дзяржаўнай патэнтнай экспертызы.

*— Ці ўваходзіць Беларусь у нейкія пагадненні паміж дзяржавамі, па якіх выключнае права на вынаходкі дзейнічае не толькі на тэрыторыі РБ?*

— Зараз ідзе падрыхтоўка еўрапейскай патэнтнай канвенцыі, актыўны ўдзел у якой прымаюць таксама Расія, Украіна і Казахстан. Гэта канвенцыя прадугледжвае падачу адзінай заяўкі і атрыманне адзінага патэнта на тэрыторыі тых краін, што падпішуць канвенцыю. Мяркуецца, што да яе далучацца таксама Малдова, Арменія, Узбекістан і іншыя рэспублікі былога Саюза. Інтарэс да яе праяўляюць таксама Балгарыя, Славенія, Манголія. Тэкст канвенцыі прапрацаваны з удзелам Сусветнай арганізацыі інтэлектуальнай уласнасці. У Маскве створана Міжнароднае бюро, якое будзе прымаць заяўкі. Мы спадзяемся, што ў першай палове будучага года канвенцыя будзе падпісана.

А пакуль трэба падаваць заяўкі ў патэнтныя ведамствы тых краін, дзе мэтазгодна патэнтаванне. З Расіяй і Украінай ёсць дамоўленасць аб узаемным прызнанні вынікаў патэнтнага пошуку, аб карыстанні патэнтнымі фондамі і ўзаемнымі кансультацыямі.

*— Вынаходнік напаў на цікавае тэхнічнае рашэнне і падрыхтаваў заяўку. Куды б вы яе параілі накіраваць?*

— Натуральна, у Белпатэнт, калі заяўка правільна афармлена. Калі ж з афармленнем ёсць цяжкасці, можна звярнуцца ў Цэнтр прамысловай уласнасці, што па вул. Я. Коласа, 22 (корпус 17 БДПА, пакоі 205, 216), тэл. 32-77-61.

Гутарку вёў
Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ.

## ВАКАНСІІ

Институт прикладной физики АНБ объявляет конкурс на замещение вакантных должностей:
— заведующего лабораторией радиоволновых методов контроля,
— заведующего лабораторией магнитных методов контроля,
— заведующего лабораторией металлофизики,
— заведующего лабораторией магнитных методов контроля,
— заведующего лабораторией капиллярных явлений,
— заведующего лабораторией электромагнитных потерь.

Срок конкурса — 1 месяц со дня опубликования объявления. Телефон для справок: 39-53-48.

## КРЫШТАЛЬ, НАРОДЖАНЫ СВЯТЛОМ

Выкарыстоўваючы ўзаемадзеянне атамаў з фатонамі, фізікі змаглі зрабіць атамы нерухомымі і ахаладзіць іх да тэмпературы, якая блізкая да абсалютнай. Абапіраючыся на гэты прынцып, два нямецкіх даследчыка змаглі размясціць атамы пара рубідыя (шчылачнога элемента) у адной плоскасці, якія, такім чынам, стварылі двухмерны «крышталь». Гэтыя работы былі праведзены пасля даследаванняў французскіх і амерыканскіх вучоных, у якіх атамы выстройваліся толькі ў адным вымярэнні.

Для свайго эксперымента нямецкія вучоныя выкарысталі дзве светлавыя (стацыянарныя) хвалі, якія перасякаліся пад прамым вуглом. Палярызацыі гэтых хваляў, г. зн. накірункі вібрацыі электрычнага поля, таксама былі перпендыкулярнымі і размешчаны ў адной плоскасці. У месцы перасячэння двух пучкоў святла атрымаўшаяся аптычная хваля ў гэтай плоскасці ўяўляла сабой светлавую матрыцу, якая магла «лавіць» атамы, дзякуючы працэсам паглынання і выпускання атамамі фатонаў, прычым, усё гэта пры ўмове, што даўжыня светлавой хвалі адпавядае прамежку паміж атамнымі ўзроўнямі энергіі. Такім чынам, трапляючы ва ўладу гэтага светлавога поля, атамы рубідыя перыядычна выстрайваюцца ў адной плоскасці, прычым, прастора паміж атамамі складае палову даўжыні хвалі (альбо частка мікраметра).

Гэтакія атамныя структуры, якія падтрымліваюцца ўздзеяннем святла, ствараюць двухмерныя крышталі — вельмі халодныя і валодаючыя невялікай шчыльнасцю. Па такому ж прынцыпу можна было б атрымаць трохмерныя крышталі. Яны ўтвараюцца пры вельмі нізкай тэмпературы і пры нерухомасці атамаў, што дазваляе праводзіць дакладныя спектраскапічныя даследаванні і павінна даць магчымасць больш дэталёва вывучыць гэту з'яву.

## АЗОН СУПРАЦЬ ІНФЕКЦЫІ

Інфекцыйныя ўскладненні — даволі распаўсюджаны і вельмі непажаданы спадарожнік у пасляаперацыйны перыяд. Выкарыстоўваемыя ж у апошні час для барацьбы з гнойнымі інфекцыямі сінтэтычныя антыбіётыкі ўздзейнічаюць абіральна на які-небудзь адзін від шкодных мікраарганізмаў. Пры гэтым лячэнне часцяком зацягваецца, а то і зусім прыводзіць да вельмі цяжкіх вынікаў.

Намнога павышае эфектыўнасць лячэння метад, распрацаваны прарэктарам Алмаацінскага медыцынскага інстытута Эдзілем Аптасаравым. У яго аснове — малагабарытны прыбор-азанатар, прымяненне якога дазваляе пазбегнуць пасляаперацыйных ускладненняў. Азон дзейнічае ўніверсальна. Струмень паветра альбо вадкасці, насычаны дазіраванай колькасцю азона, накіроўваецца на ачаг запалення і абясшкоджвае ўсю полімікробную флору.

(РИА «Новости»)

**ГЭТА ЦІКАВА**

## ФТАРЫРАВАННЕ ПІТНОЙ ВАДЫ ЗДАРОЎЮ НЕ ШКОДЗІЦЬ

Нацыянальны даследчы савет апублікаваў даклад, у якім адзначаецца, што практыкуемае ў ЗША фтарыраванне пітной вады для прадухілення порчы зубоў, відаць, не выклікае ні аслаблення касцей, ні іншых ускладненняў, звязаных з высокімі дозамі фтора.

У гэтым дакладзе гаворыцца, што ўтрыманне фтора ў фтарыраванай пітной вадзе, якое абмежавана 4 часткамі на мільён, бяспечна для здароўя. Аднак крытыкі фтарыравання вады сцвярджаюць, што нават у мікраколькасцях фтор аслабляе косці.

Нацыянальны даследчы савет прыйшоў да высновы, што шкоднае ўздзеянне фтор аказвае толькі ў канцэнтрацыях, якія вышэй узроўню рэкамендаванага Агенцтвам па ахове навакольнага асяроддзя ЗША.

Па ацэнцы амерыканскай службы кантролю і прафілактыцы хвароб, 132 млн. амерыканцаў, г.зн. 62 працэнты насельніцтва краіны, п'юць ваду, якая ўтрымлівае фтор у канцэнтрацыі 0,7 часткі на мільён.

## «ЭКАЛАГІЧНАЯ» ТРАМВАЙНАЯ ЛІНІЯ

У Гетэборзе (Швецыя) адкрываецца трамвайны рух па рэльсах, на бетонным аснаванні якіх вырашчаны травяны покрыў. Рэльсы ўкладваюцца на аснаванне са спецыяльнага гатунку бетона, распрацаванага фірмай «Семента», у склад якога ўваходзіць напаўняльнік у выглядзе мноства тонкіх стальных валокнаў, што забяспечвае высокую трываласць канструкцыі. Затым вакол рэльсаў укладваецца слой дзёрну, з прарошчанай травой таго ўстойлівага да знешніх уздзеянняў гатунку, які звычайна выкарыстоўваецца на пляцоўках для гульні ў гольф. Гукапаглынаючыя якасці травянога покрыва праверыліся ў ходзе спецыяльных выпрабаванняў. Пры гэтым было ўстаноўлена, што ён зніжае ўзровень шуму рухаючагася трамвая на 3—4 дБ.

Эксперыментальная трамвайная лінія была пракладзена на адной з галоўных вуліц горада, і, як паведамляецца, яе якасцю задаволены як транспартныя службы, так і мясцовыя жыхары. Кошт пракладкі такой лініі адносна высокі, аднак павелічэнне тэрміну яе службы павінна часткова кампенсіраваць дадатковыя расходы.

«НАВІНЫ АКАДЭМІІ НАВУК БЕЛАРУСІ»
Штотыднёвая газета Акадэміі навук Беларусі

Рэдактар Аля ШЫМАНОВІЧ

Адрас рэдакцыі: 220072, г. Мінск, вул. Ф. Скарыны, 1, пакоі 311, 313. Тэлефоны: рэдактара — 39-46-12, карэспандэнтаў — 39-54-51
Мінская фабрыка «Чырвоная зорка» МПВА імя Я. Коласа

Падпісана да друку 12.01.94 г.
Зак. 1012.
Тыраж 1450 экз.

Індэкс 64123
Пры передруку просьба спасылацца на «Навіны АНБ»
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не раздзяляючы пункту гледжання аўтара.

Аўтары апублікаваных у газеце матэрыялаў нясуць адказнасць за іх дакладнасць і гарантуюць адсутнасць звестак, якія складаюць дзяржаўную тайну.